№ 9. Вільня, Нядзеля, 14 Сакавіка 1926 г. Год II.

# Сялянская Ніва

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
Вільня, Завальная вул. 7. — (Wilno, ulica Zawalna 7).
Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 6 гадзіны апрача сьвята.
Газэта выходзіць раз у тыдзень.
Падпіска на адзін месяц 1 зл., на 3 мес.—2 зл., на 6 мес.—4 зл., на год—8 зл.
Перамена адрэсу 30 гр.



Орган Беларускага Сялянскага Саюзу.

## Ці мы дзелім?

Пасьля закладзінаў Беларускага Сялянскага Саюзу і выхаду ў сьвет „Сялянскае Нівы“ на закладчыкаў незалежнага клясавага руху сялянскага пасыпаліся з боку прыхільнікаў камуністычнае ўлады закіды, што гэты рух дзеліць сялянаў і работнікаў. Гэткія закіды няраз сустракаем у газэце „Беларуская Ніва“. Гэтак у № 6 сёлетняга году „Белар. Нівы“ у стацьці „Селянін і работнік“ рэдакцыя вініць нас у гэтым; падчыркуе, што „усюды і заўсёды іменна работнікі першыя працавалі і працуюць над усьведамленьнем і арганізацыяй сялянскіх сіл — дзеля здаваленьня адвечнага імкненьня сялянства да зямлі. Сколькі такіх работнікаў-змагароў за зямлю згнаілі расейскія царскія вастрогі“.

Што работніцкі рух у *сваіх* асвабаджэньнях стараўся выкарыстаці дзеля *сваіх* мэтаў сялянства — гэта сусім зразумела. Сялянства ў усіх краёх прадстаўляла, хоць і адсталую, але вялізарнаю сілу, не скарыстаці з гэтае сілы было-б неразумна. Таксама карыстала з работнікаў і сялянаў мяшчанства-буржуазія, як асвабаджалася ад рыцароў-паноў. Але як мяшчане, так і работнікі вылучна гэта рабілі дзеля *свае* карысьці. Работніцкі рух на‘т вытварыў у сябе такія партыі, каторых праграма была процілежна сьветапагляду, жаданьням і патрэбам сялянскім. Гэтак сацыял-дэмакратычная партыя імкнецца да таго, каб із усяе (і сялянскае ўласнае) зямлі вытварыліся вялікія двары, у якіх усе сяляне былі-б работнікамі-парабкамі, і, як работнікі, супольна з работнікамі хвабрычнымі хадаліся-б і з хвабрыкантамі і панамі. Хто-ж із сялянаў згодзіцца на гэтакі работніцкі „ідэал“? Што інтарэсы сяляніна і работніка ня сходзяцца і што работніцкія партыі ня могуць здаволіці сялянаў, гэта паглядна бачым у тых краёх, дзе работніцкія партыі ў тэй ці іншай меры дасталі ў свае рукі ўладу, прыкладам у Нямеччыне, Чэхаславаччыне, Баўгарыі. У-ва ўсіх падобных краёх нямінуча ўзьнікаюць сялянскія партыі ці саюзы, каб абараніціся ад аднабокае работніцкае ўлады. Ня ўзьнікаюць гэтыя сялянскія партыі толькі там дзе, дзе іх арганізаваць не пазваляюць, як напр. у СССР.

Але няхай нам „Беларуская Ніва“ выбачыць. Мы запраўды ня ведаем такіх работнікаў, што ўміралі за зямлю сялянам. Ня можам ведаць, бо такіх работнікаў ня было. Былі сяляне, якія пакуль ня было клясавага руху сялянскага, сялянскіх саюзаў, належылі да работніцкіх партыяў і запраўды, паколькі ў іх работніцкі кірунак партыі ня здолеў забіці сялянскага пачуцьця, хадаліся і ўміралі за зямлю сялянам. Але вось гэтыя сяляне і пабачылі, сваім дазнаньнем пераканаліся, што не работніцкім партыям вызваліці сялянства з яго матар‘яльнай і духовай нявол. Пабачыўшы гэта, яны заклалі свой клясавы Беларускі Сялянскі Саюз.

Але адкажам на пытаньне, ці дзеліць беларускі рух сялянскі сялянства і работніцтва? Мусім адказаці, што ня дзеліць. Ня дзеліць наўперад дзеля таго, што нямашака чаго дзяліці, нямашака жаднага супольнага сялянска-работніцкага жыцьця, нямаш жаднае сялянска-работніцкае арганізацыі. У гэтым і ўся трагэдыя тых, каторыя крычаць аб патрэбе супольнай сялянска-работніцкай арганізацыі, што дагэтуль у Беларусі яны яе не стварылі; але яшчэ горэй, што не стварылі ані сялянскай арганізацыі, бо лічылі, што арганізацыя мае выходзіць ад работнікаў, ані работніцкай, бо замест канкрэтнай працы сярод беларускага работніцтва, займаліся бясплодным намаўляньнем сялянаў да супрацоўніцтва з неарганізаванымі работнікамі і паслухмянасьці ім. Апошнімі часамі можна заўважыць, што „Беларуская Сялянска-Работніцкая Грамада“ робіць свае вечы ў мястох—Горадне, Беластоку і іншых. Калі-б гэта не абмежыліся аднымі вечамі. калі-б арганізацыя беларускіх работнікаў пайшла глыбей. стварыліся беларускія арганізацыі работніцкія, тады можна было-б гаманіці аб адносінах беларускіх сялянаў да беларускіх работнікаў.

Але мусім зрабіці адну засьцярогу. Работнікаў у Беларусі ёсьць вельмі мала, толькі некалькі працэнтаў. І ў гэтай малай лічбе большасьць складаюць не работнікі беларусы, але пераважна іншыя. Ад гэткага складу работніцкіх арганізацыяў мы не спадзяёмся жаднага дабра беларускім работнікам, а сялянству ад іх чыстая згуба. З прычыны такога складу камуністычнае партыі Радавай Беларусі, сялянаў беларусаў там высяляюць у Сібір і іншыя далёкія краі, а на іхняю роднаю зямлю садзяць жыдоў. Дык на наш розум беларускія работнікі маюць арганізавацiся асобна, у свае нацыянальныя (няхай і сацыялістычныя) арганізацыі работніцкія. Проці гэткіх работнікаў беларускіх, беларускае сялянства ня будзе нічагусенькі мецi і з імі зьмяркуецца.

Але калі-б і так сталася ў работніцкім руху беларускім, як мы лічым патрэбным, усё-ж такі беларускае сялянства мусіць мецi свае арганізацыі. асобныя ад работніцкіх. Мусіць гэта быць з дзьвюх галоўных прычынаў: 1) Работнікаў беларусаў ёсьць якіх 2—3%, тады як сялянаў ёсьць ля 95%. Ня можна долі гэткае вялікае лічбы сялянаў рабіці залежнае ад таго *як* пойдзе развіцьцё работніцкага руху. Вышэй было паказана, што работніцкія партыі ня могуць здаволіці патрэбаў сялянскіх, а напару бываюць сялянам і шкодны, як прыкладам польская партыя сацыялістычная або камуністычная партыя Беларусі (не беларуская). Апрача сказанага вышэй тутака прывяду яшчэ адзін прыклад. Як не нягодна жывецца ў Польшчы работнікам, а ўсё-ж такі да работнікаў адносяцца шмат ляпей, як да сялянаў. Гэтак значная частка работнікаў, нямаючых працы, дастае памогу ад гаспадарства. Гэта зусім справядліва, ня толькі гэная частка, але ўсе безработныя павінны былі-б дастаўіці гаспадарсьцьвенаю памогу. А цяперака папытаемся: ці безработных сялянаў нямашака? Есьцека безработныя дзеля таго, што не хапае зямлі, або апошняю семіну мусіў прадаці на падаткі, або каня заганялі хурманкамі і ён даўся, і ці мала іншых прычынаў, незалежных ад нашага сяляніна, прынукаюць яго аставаціся без занятку—працы. Усе гэтыя незанятыя сялане маюць права, як і работнікі, на памогу ад гаспадарства. Але ці знайшлася хоць адна работніцкая партыя, што ўступілася-б за сялянаў і дамагалася-б ім гэтага? Гэткае партыі не знайшлося наўперад дзеля таго, што работніцкія кіраўнікі проста аб сялянах ня думаюць. За гэта сялянства ня мае злаваці на работнікаў, будзе справядлівей, калі будзе злаваці само на сябе, што не ўзялося за самаарганізацыю. „Ніхто сабе не ліхадзей“ кажа беларуская прыказка. Гэтак сталася і тутака. Пакуль была адна работніцкая арганізацыя і кіравала разам работнікамі і сялянамі. рупілася найболей, а то і вылучна, аб работніках; аб патрэбах сялянскіх або забывалася, або сялянам шкодзіла. А цяперака, калі пачалася арганізацыя сялянская, арганізаваныя сяляне самі аб сваіх патрэбах будуць рупіціся і толькі самі здабудуць сялянству лепшую долю.

2) Інтарэсы сялянаў і работнікаў розныя. Па меры таго, як сяляне і работнікі будуць даходзіць лепшага, справядліўшага быцьця, розьніца гэтая інтарэсаў будзе павялічаціся. Калі дойдзе той жаданы час, што ў вёсцы ня будзе паноў, а ў мястох капіталістаў-хвабрыкантаў, ды гандляроў-спэкулянтаў — работнікі і сяляне, як места і вёска, будуць пастаўлены адны проці адных. Адны з іх будуць заняты хвабрычнымі вырабамі і з гэтага браці ўсю карысьць сабе, другія (сяляне) будуць заняты першавырабам, зьбіраньнем з Маці-Зямлі збожжа і г. п. і гадоўляй жывёлы. Месты будуць патрэбаваці хлеба, мяса і г. п., а вёска мястовых вырабаў. Работнік і селянін будуць у вадносінах да сябе. як купец і прадавец і наадварот, ці, іначай кажучы, як тавараменьнікі. У гэтай таварамене. каб ня быў жадны пакрыўджаны, не павінен адзін ад аднаго залежыць, бо адны тагды будуць магчы свабодна старгавацца. Гэта-ж можа стацца, калі як сяляне, так і работнікі будуць мець свае асобныя клясавыя арганізацыі.

Арганізаваныя асобна сяляне і работнікі будуць злучаны з сабой належнасьцяй да аднаго Беларускага Народу і паміж імі будзе лепшае сужыцьцё, чымся каб адны імкнуліся да панаваньня, а другія прымушаны былі бараніцца.

Пачаўшы арганізацыю Беларускага Сялянскага Саюзу беларускія сяляне маюць арганізаваці яго да канца, каб ён абняў усё беларускае сялянства і дапяў сялянскіх ідэалаў. Дык гэтаю арганізацыю беларускія сяляне робяць не з ненавісьці да работнікаў, якой у іх нямаш, але дзеля абароны сялянскіх правоў і ўжыцьцёўленьня сялянскіх ідэалаў. Спаўненьне гэтага будзе карысна і работнікам.

Максім Прынскі.

# ПЕРАСЬЦЯРОГА.

**Газэта „Echo Warszawskie“ 3.III. г. г. № 50 зьмясьціла тэлеграму да старшыні пасольскага Соймавага Клюбу „Пяст“, пасла Вітаса, высланую з м. Пружаны ад імя нейкага „Крестьянского Союза“ і падпісаную А. Бухаўцом. Неўваходзячы сусім у зьмест той тэлеграмы, перасьцярагаем усіх сялян беларусаў, што польскія партыі, прадбачучы выбары, пачынаюць ізноў баламуціць беларускіх сялян, арганізоўваючы нейкія новыя „Крестьянскія Союзы“, якія нічога ня маюць супольнага з абаронай беларускага сялянства.**

**Адзінай палітычнай партыяй, якая сапраўды стаіць гарой за беларускае сялянства і арганізоўвае сялян для здабыцьця лепшай долі ёсьць БЕЛАРУСКІ СЯЛЯНСКІ САЮЗ — Вільня, Полацкая вул. № 4, кв. 7.**

Сэкрэтарыят
Беларускага Сялянскага Саюзу.

# З жыцьця арганізацыйнага Беларускага Сялянскага Саюзу.

## Праект праграмы.

(Працяг).

### VII. Лясы, воды і іншыя прыродныя багацьця.

§ 16. Лясы, воды, падземныя багацьця і іншыя становяць уласнасьць усяго народу.

§ 17. На патрэбы будаўляныя і на апал Сялянскія Зямельныя Камісіі пры Самаўрадах вызначаюць пэўны лік лесу, які дастаўляе сялянам дроў і будаўляных матар'ялаў.

### VIII. Прасьвета.

§ 18. Беларускі Сялянскі Саюз дамагаецца абавязковай народнай прасьветы ў роднай мове.

§ 19. Навука ў школе пачаткавай, сярэдняй і вышэйшай павінна адбывацца бясплатна.

§ 20. Навука ў ніжэйшых, сярэдніх і вышэйшых школах павінна адбывацца ў роднай мове.

### IX. Палітычныя і грамадзкія правы.

§ 21. Усе грамадзяне зьяўляюцца роўнымі прад правам.

§ 22. Кожны грамадзянін мае права берагчы сваю нацыянальнасьць і ўзгадовываць сваю мову і культуру.

§ 23. Беларускі Сялянскі Саюз дамагаецца поўнай свабоды сабраньняў (сходаў), друку, слова, арганізацыі ўсялякіх таварыстваў і прафэсыянальных саюзаў.

### X. Рэлігія.

§ 24. Усе грамадзяне павінны карыстацца з свабоды сумленьня і рэлігіі.

§ 25. Каб урад ня мог падтрымліваць адну рэлігію на шкоду іншых, патрэбна, каб царква, касьцёл і іншыя рэлігійныя ўстановы былі аддзелены ад дзяржавы.

### XI. Самаўрады.

§ 26. Беларускі Сялянскі Саюз дамагаецца шырокіх самаўрадаў, выбраных на аснове агульнага, простага, тайнага, роўнага і пропорцыянальнага галасаваньня.

§ 27. Справы адміністрацыйныя, гаспадарчыя, школьныя, зямельныя, бальнічныя і іншыя належаць да валасных, павятовых і акружных (ваяводзкіх) самаўрадаў.

§ 28. Самаўрады самастойна ўстанаўляюць буджэты прыходаў і расходаў, зацьвярджаюць (вызначаюць) усю валасную, павятовую і акружную адміністрацыю і спраўляюць над ёй кантроль.

### XII. Суды.

§ 29. Суд павінен быць незалежны.

§ 30. Міравыя Суды складаюцца з выбранага судзьдзі.

§ 31. У-ва ўсіх важнейшых угалоўных і палітычных справах прыгавары выносяць суды прысяжных.

§ 32. Беларускі Сялянскі Саюз дамагаецца скасаваньня кары сьмерці і скасаваньня палявых (надзвычайных) судоў.

(Далей будзе).

# Палесьсе і П. П. С.

Ад выбараў 1922 году, а нават і раней П.П.С. (Polska Partja Socjalistyczna) зьвярнула вялікую ўвагу на нашае Палесьсе, асабліва на Піншчыну. Зьвярнула ўвагу не дарма—там яна знайшла для сябе жніво, бо мусіць нідзе у самой Польшчы пэпэсы не атрымалі мандатаў у Сойм з вясковых акругоў, а на Палесьсі атрымалі... Цёмныя беларусы, забіўшыся ў свае балоты, паверылі пэпэсам і аддалі ім пры выбарах свае галасы. Вот мусіць затым і рынуліся польскія сацыялісты на нашае Палесьсе здабываць ізноў мандаты.

Сваю агітацыю яны вядуць даволі проста: наймаюць агітатараў і тыя раз'яжджаюць па вёсках абяцаючы ўсім зямлю, хто толькі запішыцца ў пэпэсаўскі камітэт. Гавораць папольску, або парасейску. А калі гавораць папольску або парасейску, у вачах народу яны мусіць нейкія „ужэнднікі“, маючыя сілу, бо нават і паліцыі не баяцца. Хай папрабуе які беларус прыехаць дый залажыць камітэт! Адразу возьмуць і яго і камітэт. Значыць пэпэсы маюць сілу і ануж дадуць зямлю... так разважае цёмны пінчук.

Гэтым мусіць і тлумачыцца тая ўдача польскіх сацыялістаў пры выбарах і пры цяперашняй агітацыі на Палесьсі.

Нешта падобнае мы відзелі даўней і па другіх частках Беларусі з партыяй „Wyzwolenie“. Гэтая партыя таксама не ганьбавала ніякай дэмагогіяй і сыпала абяцанак столькі, што нашаму селяніну аж у галаве закруцілася... Затым таксама і „Wyzwolenie“ здабыло сабе на Беларусі добры лік пасольскіх мандатаў тры гады таму назад. А цяпер? Цяпер ад „Wyzwolenia“ і сьледу не асталося! Народ скора праканаўся, што ўсе тыя вызваленскія абяцанкі—гэта адна мана і ашуканства і што трэба здабываць зямлю і волю сваімі рукамі...

На зьмену „Вызваленьня“ прыходзе П. П. С. Яно пайшло не ў Віленшчыну і Наваградчыну, а ў палескую глуш, куды не дайшла яшчэ беларуская сьведамасьць. Яно добра ведае, што можа разьвівацца і істнаваць у нашым краі толькі апіраючыся на цемнаце, дык і зьвярнула сваю ўвагу на найцямнейшы куток.

Але мы таксама добра ведаем, што іхная работа ня мае ніякага грунту і яна таксама скончыцца як скончылася работа „Вызваленьня“. Але ўсёжтакі яны беларусам шмат могуць напсаваць.

Найгорш тое, што яны пачалі выдаваць расейскія газэткі і праклямацыі. Каб хто даўней сказаў, што пэпэсы будуць русыфікатарамі ў нашым краі, дык мусіць ніхто не паверыўбы і самі пэпэсы такія словы ўважалі-б за вялікую для сябе абразу. Аднак цяпер яны моцна пашыраюць расейшчыну па ўсім Палесьсі і закладаюць нават расейскія школы... Вот да чаго даходзіць!

Што-ж на гэта мы беларусы?

Нам трэба зьвярнуць большую ўвагу на Палесьсе. Праўда, работы там многа, цямната вялікая і ворагаў шмат. Дык нашыя паслы павінны зьвярнуць сваю дзейнасьць на Палесьсе.

Спаміж усіх акругоў у Беларусі Палесьсе зьяўляецца найболей закінутай і глухой стараною, дык туды і трэба зьвярнуць найбольшую ўвагу.

**Араты.**

*Сяляне! Чытайце і пашырайце сваю газэту „Сялянскую Ніву“!*

*Прысылайце грошы на газэту і адрасы Вашых знаёмых!*

— „Грамадзяне! Перад усім дазвольце вам шчыра падзякаваць за ваш одзыў. Гэтым вы паказваеце, што не закрываеце сваіх вачэй на недарэчнае ўзгадаваньне вашых дзяцей. Добры робіце прыклад. Думаю, што недалёка той час, калі ваш прыклад распаўсюджыцца па ўсіх вёсках“.

Паясьніўшы тое вялікае значэньне навучаньня дзяцей у зразумелай для іх мове, т. ё. у беларускай, і, азнаёміўшы прысутных з гісторыяй Беларусі, вучыцель запытаўся, ці згаджаюцца яны мець у сваей вёсцы замест польскае—беларускую школу. Нейкі час ішла між гаспадарамі гутарка, якая выявіла, што ўсе ахвотна згаджаюцца на беларускую школу. Мала таго, нават абяцалі сякую-такую матар'яльную дапамогу вучыцелю на выпадак нязгоды ўлады плаціць яму ўтрыманьне. Але на думку сялян было небяспечна рабіць гэты крок, таму што адміністрацыя ў гэтым можа ўгледзіць нейкі бунт. Тут трэба яшчэ дадаць, што гэты сход быў склікаты без дазволу паліцыі солтысам гэтае вёскі А. Машкевічам, які ёсьць сапраўды шчырым і сьвядомым беларусам. Ён шмат чаго добрага зрабіў дзеля пашырэньня беларускае сьведамасьці. Ня ведаю, ці хто-небудзь з солтысаў другіх вёсак згадзіўся-б склікаць сход на сваю адказнасьць і яшчэ ў 1921 г.? Думаю, што не.

Вучыцель пачаў выясьняць прысутным, што на падставе канстытуцыі польскай рэспублікі Беларускі Народ маець поўнае права на родную школу.

— „Гэтае права—гаварыў ён далей—вам ніхто ня сьмеець адабрыць. Толькі мусіце вы самы добра пільнаваць, каб гэтае права ня было надужывана польскаю мяйсцоваю адміністрацыяй. Тое, што польская адміністрацыя пастараецца ўсадзіць кій у нашыя калёсы—гэта факт. Да гэтага трэба быць ужо наперад прыгатаванымі. Але на такія зьявішча ня трэба зьвяртаць увагі, а дамагацца свайго. Калі мы будзем цьвёрда стаяць за сваё дзела, дык вас, грамадзяне, запэўняю, што мы даб'ёмся таго, чаго жадаем...“

Гутарка вучыцеля саўсім успакоіла сялян. Цяпер заставалася толькі напісаць пратакол і яго падпісаць. За хвілю ўсё гэта была зроблена. Сяляне, здаволеныя з тае справы, якую выканалі, пачалі расходзіцца па хатах. Было ўжо 10 гадзін вечара, як вучыцель разам з солтысам астатнімі пакідалі будынак школы. Пратакол і заяву на сходзе абмяркавалі паслаць у Белар. Цэнтральную Школьную Раду ў Вільні з просьбаю зрабіць адпаведныя крокі перад польскай уладай аб адчыненьні на будучы год беларускай школы. На другі дзень усё гэта было выканана.

Пацягнуліся доўгія дні, тыдні, месяцы—чаканьня... Сяляне часта пыталіся вучыцеля, што чуваць адносна школы, але потым відаць надаела ўжо, дый замоўклі... Ужо забыліся...

Быў сакавік 1922 г. Прыгрэла сонейка... Растаяла на вуліцы. Дзеці сваім вясёлым крыкам давалі знаць, што ўжо зближаецца вясна. Было 10 сакавіка. Дзень выпаў сонечны, ясны... На дварэ цёпла, пекна... Дзякуючы нізкай мяйсцовасьці у вёсцы і наваколя ястэалася балота.

У школе „ідзець“ навука. Ды не сказаў-хы, што „ідзець“... Дзецям за зіму ўжо даволі збрыдла гэтая „abecadło“. А тут вясна на дварэ!... Няўважна слухаюць дзеці вучыцеля. Балей пазіраюць у вокны, на свабоду, на прывольле...

Была ўжо 3-я лекцыя, — аж раптам як у адзін голас дзеці закрычалі:

— „Пан вучыцель! пан інспэктар прыехаў“.

Дзеці адразу яго пазналі, бо быў ужо ў леташнім годзе. Надта хваліў вучыцеля, што ў школе ёсьць „postęp“. Яны часта гаварылі вучыцелю аб гэтым інспэктару, як аб добрым пану, які ўмее добра і ласкава пагамавіць. Ласкава... добра... А ня ведаеце, дзеткі, што гэты добры... ласкавы пан хацеў зрабіць з вас заклятых ворагаў сваіх уласных бацькоў і сваеі Бацькаўшчыны?!... І вы таксама ня ведаеце, чаго ён так рана зьявіўся ў Ліхачы? Ня гледзячы на тое страшэннае балота і на тую адлегласьць (з Пружанаў да Ліхачоў 15 кілям.), гэты панок пастараўся чамусьці прыехаць іменна сягоньня. На рэвізіі школаў у гэткі ранні час ён ніколі ня езьдзіў. Дык якая маланка яго прынесла сюды? А вось якая. Налажыць сваю руку на беларускаю школу. Гэта-ж першы такі выпадак, што ў яго школьным павеце зьявілася дамаганьне аб беларускай школе. Ён, як добры патрыёта адразу зразумеў „небясьпеку“ тае новае „заразы“, якая зьявілася за 15 кіл. ад Пружанаў. Зразумеў таксама, што гэтая „зараза“, калі яе ня зьнішчыць, можа маланкаю разьнесьціся па цэлым павеце. А гэта было на яго думку немагчымым і недапушчальным. Беларуская людпасьць у Пружаншчыне, як ня раз высказваўся п. інспэктар Алехоўскі, зьяўляецца надта „лёгкім“ і „прыдатным матар'ялам дзеля „перапрабленьня“ яго на чыста польскі капыл. А тут на табе! Ні з таго, ні з сяго—загаварылі! Думкі і мары яго завялі...

Вучыцель, пачуўшы навіну, дзівіцца праз вакно і бачыць. Перад школаю, на вуліцы стаіць пара добрых коняў, запрэжаных у жоўтую панскую брычку. Коні мокрыя, як-бы з вады вылезьлі... Відаць добра змарыліся, бядягі, пакуль давезьлі свайго пана да Ліхачоў... Дарога паганая, паганая... Калёса па калодкі ўлазяць у балота. Пан інспэктар зьлез з брычкі і, сказаўшы нешта фурману, пакіраваўся у школу. Гэтая раптоўная зьява інспэктара вельмі зьдзівавала вучыцеля. Ён сам ня мог вытлумачыць, што гэта можа значыць. Адно толькі сьцяміў, што „нешта“ ёсьць.

У час лекцыі інспэктар заўважыў вучыцелю, што дзеці ня ўмеюць папольску гутарыць.

— „Ужо два гады, кажа ён, як істнуець у Ліхачох польская шкода, а дзеці папольску а ні гу-гу! Што за прычына гэтаму?“

Вучыцель трумачыў гэтаму „пэдагогу“, што з моваю трудна таму, што дзеці гавораць пабеларуску ўсюды: дома, у школе, на вуліцы і г. д.

Але п. інспэктар і слухаць не хацеў.

— „Калі захоча вучыцель, каб дзеці гаварылі папольску, дык хоць і з труднасьцямі, але даб'ецца гэтага“.

Як пацьверджаньне гэтага, ён узяў за прыклад адну вёску (ужо не памятую якую, здаецца Носкаўскай вол.), дзе за адзін год дзеці навучыліся добра гаварыць папольску. У пачатку інспэктар зрабіў высновак такі:

— „Я з усяго гэтага бачу, што ў ліхачоўскай школе навука выкладалася не папольску, а пабеларуску“.

Цяпер зразумеў вучыцель у чым справа.

(Далей будзе).

# Ад Рэдакцыі.

БРАТЫ БЕЛАРУСЫ!

Ідэя адраджэньня Беларускага Народу ў апошніх часах пашырылася моцна. Калі яшчэ некалькі гадоў таму мала было чуваць пра Беларусь, то сяньня аб Ей гавораць усе...

Наш няшчасны Народ устае з векавога сну, каб самому каваць для сябе долю, бо праканаўся, што нашы дужыя суседзі толькі стараюцца нас выкарыстаць, а нічога добрага для нас не даюць.

Ад нашай дружнасьці і сьведамасьці залежыць наша сіла, а ад нашай сілы — залежыць наша доля.

Але ёсьць яшчэ куткі ў нашай Беларусі, дзе пра Беларусь мала чуваць, а калі што і чуваць, то людзі яшчэ не разумеюць у чым справа. Такім людзям трэба памагчы.

Беларуская сьведамасьць пашыраецца найбольш праз друкаванае слова—праз газэты.

Дык да Вас беларускія дзеячы зьвяртаемся з просьбай: *прысылайце адрасы Вашых знаёмых*, якія інтарэсуюцца палітычным жыцьцём і не чураюцца роднай мовы. Рэдакцыя пашле ім некулькі нумароў нашай газэты *дарма*—можа яны заахвоцяцца і выпішуць яе.

*Прысылайце таксама весткі і карэспандэнцыі з Вашага боку.*

Мы ведаем, што роднае слова гэта ўсё роўна, што зерня, кінутае ў ральлю... Яно спачатку быццам замірае, але потым усходзіць і дае вялікі ўраджай...

Дык няхай ня будзе ў нас такога цёмнага кутка, куды б не даходзіла беларуская газэта...

Чым болей будзе пашырацца беларуская сьведамасьць, тым скарэй будзем прыбліжацца да сьвятлейшых дзён... да лепшай долі...

А лепшая доля залежыць ад нас самых!

**РЭДАКЦЫЯ.**

# З Краю.

### Колькі трудоў і грошай!

Газэты нядаўна пісалі, што ў Вялейцы адбылося сабраньне „Towarzystwa Opieki nad Kresami". Пастанавілі закладаць народныя дамы і пашыраць газэтку „Głos Wileński", якая мае быць органам гэтага Т-ва.

Цяпер ізноў чуем, што стварылася нейкая „Rada Opiekuńcza Kresowa", якая таксама пашырае сваю дзейнасьць на Віленшчыну, закладаючы народныя дамы, пашыраючы польскую літэратуру і ладзячы польскія спэктаклі. Кружкі („Koła") гэтай Рады быццам заснаваліся ў гмінах: Мосарскай, Войстамскай, Ільскай (Ілья), Дамушанскай (такой гміны няма!), Гарадоцкай, Касьценевіцкай, Жодзіскай, Камайскай, Кабыльніцкай і Сьвірскай. А народныя дамы заснаваны ў такіх мястэчках: у Мосары, Ладосях, Ілы і Данюшаве.

А найцікавей тое, што гэтыя дамы на палавіну або і на тры чверці былі пабудаваны на кошт тэй „Рады!". Пытаньне: скуль „Рада" бярэ грошы на такія штукі? Ці не з народу? А калі яшчэ дабавіць „zapomogi" на ўстройства польскіх спэкулянтаў, то сапраўды дойдзім да пракананьня, што пашыраньне польшчыны на „Крэсах" абходзіцца беларусам сялянам надта дорага.

Ды не адна такая „Рада" ёсьць! А яшчэ К. О. К. („Komitet Obrony Kresów"), а яшчэ З. Б. К. („Związek Bezpieczeństwa Kraju"), а яшчэ і „Straż Kresowa" — вот колькі панскіх арганізацыяў на нашага беларуса! А ўсе гэтыя арганізацыі на тое, каб паддзяржаць польшчыну ў нашым краі! Слабая польшчына, калі трэба яе гатак моцна паддзержываць!

# Беларусы у Чэхаславакіі.

### Праская арганізацыя Бел. Сялянскага Саюзу.

Арганізацыя гэтая была заложана вясною 1922 г. і ўвесь час складалася блізу што з адных беларускіх студэнтаў. У 1922—23 годзе арганізацыя выдавала сваю часопісь „Беларускі Студэнт". Арганізацыя ўвесь час упорна і стойка бараніла нацыянальныя і сацыяльныя правы беларускага сялянства, прыймаючы ўчасьце ў палітычным жыцьці і выступаючы на міжнародных сялянскіх зьездах, наскольки гэта дазвалялі заняткі яе сяброў.

Сёлета 12 лютага адбылася 5 я агульная, гадавая зборка гэтае арганізацыі.

Пасьля адчыненьня зборкі, воплескамі было прынята прывітаньне Беларускаму Сялянскаму Саюзу ў Заходняй Беларусі.

Па справаздачы старога прэзыдыуму і дэбатах агульная зборка пастанавіла павялічыць працу ў 1926 годзе.

Апрача таго аднагалосна прынята наступная рэзалюцыя—заклік да беларускае эміграцыі:

„Прыймаючы пад увагу а), што беларускае сялянства здолее асвабадзіцца і дабіцца сабе лепшае будучыні толькі арганізаваўшыся ў свой клясавы Беларускі Сялянскі Саюз і б), што арганізаваны летась у Заходняй Беларусі Беларускі Сялянскі Саюз ёсьць адзіным незалежна-нацыянальным кірункам беларускім, — 5-я гадавая агульная зборка Праскае арганізацыі Б. С. С. кліча 1) усіх думаючых пасяляянску беларусаў уступіць у Беларускі Сялянскі Саюз, 2) усіх беларусаў бяз розьніцы кірункаў злучыцца каля Беларускага Сялянскага Саюзу".

На азначанай агульнай зборцы адбыліся перавыбары прэзыдыуму і рэвізыйнай камісіі.

### Прывітаньне Беларускага Сялянскага Саюзу.

Пятая агульная зборка Праскае Арганізацыі Беларускага Сялянскага Саюзу шчыра вітае Беларускі Сялянскі Саюз і жадае яму ўдачы ў арганізаваньні беларускага сялянства Зах. Беларусі.

Нашая арганізацыя моцна верыць, што толькі клясавая арганізацыя беларускага сялянства асвабодзіць яго і ўвесь Беларускі Народ.

Прэзыдыум
Праскае Арганізацыі Б. С. С.

### Склад новага ўраду Праскага Беларускага Сялянскага Саюзу.

Склад новага прэзыдыуму Праскае Арганізацыі Б. С. С. гэткі: старшыня—Вячаслаў Лаўскі, Praha—Žižkov Taboritskà ul. š. 20 č. dv. XI; віцэстаршыня і скарбнік—Адольф Клімовіч, Praha—Kr. Vinohrady Havlíčkova, č. 69; сэкрэтар — Хведар Клаўсуць, Radotin u Prahy č. 328.

# З Польшчы.

### Нарада групы Брыля і Домбскага.

Нядаўна адбыліся нарады новай партыі зарганізаванай праз пасло ў Брыля і Домбскага. Прыехала каля 120 дэлегатаў з 82 паветаў. Галоўны даклад сказаў Домбскі, на каторым было прынята рад рэзалюцыяў, якія маюць насіць характар праграмны.

За галоўную прычыну гаспадарчага крызысу гэта група лічыць мілітарызм (ваеншчыну) і бюракратызм. Гэтыя расходы можна зьменшыць толькі праз увядзеньне Злучаных Штатаў Эўропы.

Дзеля таго, што войны вядуць клясы багатыя, то неабходнай зьяўляецца проціўдзейнасьць пры помачы адпаведных міжнародных сялянскіх арганізацыяў у рожных гаспадарствах і ў сваім краі. Гэтак новая група будзе старацца стварыць якнайлепшыя адносіны з сялянамі беларускімі і ўкраінскімі і падтрымліваць іх дамаганьнені аж да аўтаноміі тэрытарыяльнай.

Да цяперашняга ўраду група гэта даверу ня мае, дзеля таго лічыць неабходным якнайхутшэйшы роспуск Сойму і правядзеньне новых выбараў.

# ХРОНІКА.

— **Выстаўка беларускіх тканін.** У працягу першага тыдня сакавіка мес. была адкрыта пры Унівэрсытэце ў Вільні вельмі цікавая выстаўка беларускіх тканін і паясоў. Найбольш месца займалі дываны нашай вёскі з усіх паветаў Віленшчыны і з некатарых паветаў Горадзеншчыны.

Агулам выстаўка рабіла дужа прыемнае ўражаньне. Ладзіла яе група віленскіх палякаў з паняй Эрэнкройц на чале, каторая хоць чытае ў Унівэрсытэце беларускую этнолёгію і адносіцца да нас даволі прыхільна, ня мела аднак адвагі назваць выстаўленыя экспанаты беларускімі, а толькі „тутэйшымі". Так прынамсі пісалася на афішах і іншых абвестках. Трэба усё такі цешыцца, што выстаўка не назвалася польскай. Дзякуем і за „тутэйшасьць!"

— **Нашто гэтае ашуканства?** Вярнуўшыся з Расеі пасол Мятла пачаў друкаваць у „Беларускай Ніве" свае ўспаміны з падарожы. Чытаючы ўсё тое, што відзеў і чуў у Расеі п. Мятла, дык нясьведамы чалавек можа падумаць, што там сапраўды рай. Людзі і накормленыя і сытыя і дагледжаныя—словам, няма ніякай бяды.

Аднак мы ведаем, што як усюды на сьвеце таксама і ў Расеі гора ёсьць многа. Людзі церпяць і голад і холад, ёсьць шмат сіротаў бяз прытулку нават у самай Маскве, шмат безработных, а ўжо пра жыцьцё вёскі няма што і гаварыць.

Ведама, што паслом не паказвалі гэтых бедакоў, але паказвалі тое, што было на паказ — а паказаць на'т у найбяднейшай старане заўсёды нешта знайдзецца—дык паўстае пытаньне, нашто пасол Мятла ўсё гэта разказвае?

Няўжо-ж п. Мятла настолькі не арыентуецца, каб не здаваць сабе справы з усяго таго, што яму паказалі?

А калі знае і ведае, то на што ашуківаць людзей?

Бо тыя людзі, якія варочаюцца з Расеі разказваюць, што цяпер, праўда, там лепш, чым было ў 1921—22 годзе, цяпер прынамся людзі з голаду ня мруць, але ўсётакі куды горэй, чым было перад вайною, ужо не гаворачы пра іншыя краі як Амэрыка або Англія.

Дык яшчэ раз пытаемся ў п. Мятлы, нашто гэтае ашуканства беларускага народу?

— **Літоўскія дамаганьні.** Як ведама, адносіны польскае ўлады да літоўскае людн асьці, якая апынулася ў межах Польскае Рэспублікі, — зусім такія-ж, як і да беларусаў. Аб тым гавора мэморыял, які пададзены польскаму ўраду Часовым Літоўскім Камітэтам у Вільні.

Дамаганьні літвіноў гэткія: Адносна да сярэдніх школаў (прыватных) яны просяць наданьня ім правоў, дазволу выкладаць усе прадметы, апрача польскіх, у роднай мове, дапушчэньня здачы экзаменаў на атэстат дасьпеласьці ў той-жа літоўскай мове і... невыкіданьня вучыцялёў, якія „ня маюць абыватэльства".

Адносна да прыватных пачаткавых літоўскіх школ — просяць таксама не рабіць труднасьцяў, прычэпак вучыцялём, спыненьня і зачыненьня літоўскіх школ там, дзе ўрад адчыняе (нет ведама для каго!) польскія казённыя школы, ды—дапамогі з дзяржаўнага скарбу літоўскім школам на тых-жа варунках, як даецца польскім прыватным школам.

Гэтыя слушныя дамаганьні выклікалі ў польскай нацыяналістычнай прэсе дзікі гвалт і нягодныя лаянкі.

— **5555 безработных у Вільні.** У апошнім справаздаўчым тыдні ў віленскім урадзе „Pośrednictwa Pracy" лічылася 5.555 душ безработных, з чаго выпадае: мужчын—4.006 і жанчын—1.449. Дадзена праца толькі 68 душам.

— **Курсы літоўскай мовы.** Віленская Куратор ыя Школьнага Округу каля 15 красавіка гэтага году ладзіць курсы літоўскай мовы для вучыцялёў. Ці ня будуць гэта курсы для „казённых" вучыцялёў?

— **Афіцыяльны курс грошы на 12 сакавіка.** Даляр—7 зл 60 гр. Залаты рубель—3 зл. 91 гр.



Рэдактар-Выдавец: **Ст. Вольскі.**

Друкарня **Н. Левін і Сын,** Вільня, Нямецкая 22.